Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 30 Пятніца, 3-га Кастрычніка 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ... ь. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц ...
За граніцу ўдвая да...

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4.
(Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.





## Пара ацьверазець.

Што дзень, дык усё болей чытаем аб росьце бандытызму. Кожны пасвойму стараецца вытлумачыць яго прычыны.

Выйшаўшая першым нумарам на зьмену „Сына Беларуса“, газэта нейкага невядомага беларуса Антона Войціка — „Сялянская Праўда“, як відаць, заводзіць на сваіх шпальтах заўсёдную рубрыку — „бандытызм“. Газэце гэтай ня страшна тое, што дзеецца.

Шовіністычны ультра - польскі „Dziennik Wileński“ стараецца супакоіць сваіх чытачоў, што бандыцкія напады саўсім замежнае зьявішча і што беларускі селянін — гэта такое божае цялятка, якое ўсё можа зносіць да бесканечнасьці.

І ў той час, як староньнікі „Сялянскай Праўды“ ды яшчэ й „истины“ гатовы прыдаць толькі палітычнае значэньне дзікім праявам нашага краёвага жыцьця, польскі нацыяналізм гатоў спакойна спаць.

А Урад стараецца навясьці цішыню й парадак чыста-паліцэйскімі мерамі.

Здарэньне ў ваколіцах Луніна перайшло ўсякую меру.

Аднак-жа, мы пераконаны, што ўхіліцца ад падобных нячуваных выпадкаў пры помачы аднаго толькі ўзмацненьня паліцэйскага апарату наўрад ці можна.

Аб гэтым, нарэшце, чуваць галасы і з польскіх болей цьвярозых лагераў. Перадавая польская прэса шчыра пачынае прызнавацца да грахоў, нарobленых у нашым краі цераз нацыяналістычны, нязгодны з конституцыйнымі прынцыпамі, кірунак унутранай польскай палітыкі.

Чуваць галасы й аб тым, што ў шмат якіх бандыцкіх нападах праглядае палітычная падкладка.

І проці гэтага нічога сказаць няма. Калі-б край жыў здаровым палітычным жыцьцём, дык ці-ж само насяленьне не патрапіла-б выключыць усякую магчымасьць *палітычнага* бандытызму?

Мы ўжо раз выказаліся і можам сьмела паўтарыць, што бандытызм разглядаем, як такі, лічым яго зьявішчам ненармальным і верым, што зьнікне ён тады, калі ў барацьбу з ім будзе уцягнена само насяленьне. А ўцягнуць гэтае насяленьне ў барацьбу з бандытызмам можна толькі шляхам фактычнага загарантаваньня ўсіх яго конституцыйных правоў, ня гледзячы на рэлігію або нацыянальнасьць кожнага паасобнага грамадзяніна.

Мы далёкі ад таго, каб сказаць, што кожны *беларус*, ці кожны *праваслаўны*, кожны каму затармазілі „абывательства“, кожны, каго яшчэ чым-нібудзь скрыўдзіла неразумнае трактаваньне ўладаў, — каб кожны з гэткіх грамадзян кідаўся ў бандытызм, хапаўся за помсту, але зусім магчыма, што палітычны момэнт у некаторых бандыцкіх нападах ёсьць.

Прызнаць гэта няма што баяцца, а прызнаўшы трэба раз і назаўсёды знайсьці лякарства ад таго, што дэмаралізуе масы, дае ім повад думаць, быццам на нашай зямлі іначай ня можа й быць.

Калі мы зьбяром да купы хаця-бы дробныя апісаньні бандыцкіх нападаў за якіх-нібудзь пару тыдняў, дык пабачым: там і там напалі і зрабавалі *польскага* ксяндза, там і там абабралі маёнтак, а то проста спынілі поезд, ды ня просты, звычайны, а такі, якім ехаў ваявода, біскуп ды акружны камэндант паліцыі.

Звычайнаму бандыту-грабежніку ўсё роўна, каго абіраць: звычайных пасажыраў, ці паязды з вышэйшымі мясцовымі адміністратарамі, беларуса грабіць ці паляка і г. д.

А тут выходзіць нешта іншае. Наш-жа няшчасны народ, ведаючы сваю прыказку, што „голы разбою, а мокры дажджу не баіцца“ па цемнаце сваёй думае, што *яго хата з краю*. Шмат хто ня хоча зразумець, што бандытызм можа й голага зрабіць яшчэ галейшым, а мокрага ад дажджу можа вымачыць у яго ўласнай крыві.

Апошнія войны прывучылі народныя вочы да розных жахаў і вастрыня пагляду прытупілася. Якая-ж страшэнная дзіч павінна паказацца ў вачох кожнага, калі глянуць на тое, што дзеецца, саўсім цьвяроза.

Малады польскі нацыяналізм думаў борзда і лёгка зьмяніць беларускі нацыянальны твар, прапаведзь Станіслава Грабскага аб магчымасьці вырабіць *аднalітае польскае насяленьне* па ўсёй Рэспубліцы і вырабіць гэта шляхам націску на самабытнасьць беларуса або украінца (па С. Грабскаму — русіна) была гэтак салодкай кожнаму польскаму сэрцу, што ўсім чыста паляком здавалася, быццам прапаведзь гэта непаграшыма.

Нацыяналізм забраў верх у Польшчы так далёка, што перад ім неяк стушавалася права.

Ня так даўно мы друкавалі яўна незаконны, выданы бяз ніякае ссылкі на права, цыркуляр Віленскае Чугуначнае Дырэкцыі, якім, няма ведама чаму, забаранялася прымаць на чугуначную службу ў нашым краі *асоб праваслаўнае рэлігіі*.

Ня ведаем, ці зьвярнула на гэты цыркуляр увагу пракуратура.

Да нас даходзяць заявы з месцаў, што бывае й гэтак: там дзе беларускае насяленьне жадае школы на сваёй роднай мове і дзе ёсьць каля 80 дзяцей-школяроў, там замест царскай царкоўна-прыходзкай школы (ў тым самым казённым будынку) ёсьць цяпер польская школа, а ў школе гэтай... *восем* вучняў.

Ці-ж гэта рэч нармальная?

Дамагацца сваё роднае школы ў Польшчы—простае права беларусаў, загарантованае Конституцыяй, прызнанае нарэшце ў пэўнай меры самім Польскім Урадам, правёўшым законы аб мовах нацыянальных меншасьцяў цераз законадаўчыя установы Рэспублікі...

Нацыяналізм польскі выклікаў нацыяналізм і сярод беларусаў. Нацыяналістычна-радыкальная пазыцыя Беларускага Пасольскага Клюбу, запомніўшага саўсім дзеля чаго і дзе ён знаходзіцца, дарма фарбуецца ў социяльна-радыкальны колер, пазычаны з Усходу. Пазыцыя гэтая—няўпорнае дзіцятка, прыйшоўшае на сьвет на грунце саўсім тутэйшага нацыянальнага антагонізму.

І час ужо ацьверазець ад гэтага антагонізму.

З аднаго боку польскі палітычны сьвет павінен якнайхутчэй зразумець, што ад беларуса яго нацыянальнасьці адабраць немагчыма—ўсе стараньні ў гэтым кірунку толькі плодзяць вельмі зразумелую адпорнасьць.

З другога боку— панове сэнатары й паслы-беларусы, як і тыя «тоже бѣлоруссы», якім воляю гаротнага беларускага сялянства дасталася высокая місія прадстаўляць яго інтарэсы і бараніць яго правы ў Польскай Рэспубліцы,— павінны пакінуць быць падгалоскамі паноў палажэньня на усходзе Беларускай Зямлі, павінны заняцца лёсам заходніх беларусаў у межах іхніх тутэйшых правоў.

Ніхто ня мае моральнага права ліць ваду на млын бандытызму, кожны павінен шукаць спосабу аходаць яго.

Аходаньне лёгка дасца тады, калі жыцьцё краю прыме гэткія гармонічныя формы, якія дыктуюцца здаровым розумам і вымагаюцца простымі народнымі інтарэсамі ды сэнсам нармальнага дзяржаўнага дэмакратычнага ладу.

---

## Палітычны агляд.

У зьвязку з будучым уваходам Нямеччыны ў Лігу Народаў зусім пераменяюцца ранейшыя адносіны палітычных сілаў у Эўропе. Раней за ўсё нездаволены палажэньнем справаў С. С. Р. Р., падпісаўшы з Нямеччынай ваенна - палітычны дагавор. Бальшавікі не прызнаюць вэрсальскага трактату, дзеля гэтага яны не прызнаюць і Лігі Народаў, якая дагэтуль была прыладай у руках пераможцаў, абслугоўваўшай толькі іхнія інтарэсы. Калі-ж Нямеччына, раней адна з галоўных варожых старон, увайдзе ў Лігу Народаў, апошняя траціць ранейшы свой аднабокі характар і ўзапраўды адтрымоўвае значэньне міжнароднага органу, якім яе хацеў бачыць яе тварэц, нябожчык прэзыдэнт Злучаных Штатаў Вільсон, і якім хоча яе зрабіць ангельскі прэм'ер Макдональд. Гэткім чынам, Нямеччына сваім уваходам у Лігу Народаў дапамагае ўзма-

